

# БЕЛАРУС

№447 • Верасень 1997 г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## 22-Я СЭСІЯ РАДЫ БНР

30-31 жніўня сёлета ў амэрыканскім гор. Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрзі, адбылася 22-я Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. У сэсіі ўзяло ўдзел больш за пяцьдзесят радных з ЗША, Канады, Францыі, Бэльгіі, Англіі, Нямеччыны, Чэхіі, Летувы і Беларусі.

Удзельнікаў высокага сходу вітаў ад імя ньюджэрзійскага сэктару Рады БНР сп. Юрка Азарка, які разам са сп. Янкам Азаркам быў адказны за арганізацыйны бок Сэсіі. На старшыню Сэсіі быў абраны др. Янка Запруднік, а ягоным заступнікам сп. Хведар Нюнька. Сакратарамі былі сп-чна Алеся Сёмуха і сп. Сяргей Навумчык.

Сэсія пачалася малітвай, якую прачытаў Мітрапаліт БАПЦ Уладыка Мікалай, адсьпяваньнем нацыянальна-рэлігійнага гімну «Магутны Божа» ды ўшанаваньнем памяці паэткі Натальлі Арсеньневай і ўсіх памерлых змагароў за свабоду Беларусі. У працы Сэсіі ўзяў удзел запрошаны госьць, старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк.



*Івонка Сурвілла — Старшыня Рады БНР.*

Пасьля ўзгадненьня парадку дня адбылася ўрачыстасьць прыняцьця новых сяброў. Рада БНР папоўнілася людзьмі зь Беларусі, што жылі дасюль у Злучаных Штатах або нядаўна прыбылі з Бацькаўшчыны.



*Прысяга новых сяброў Рады БНР.*

Удзельнікі Сэсіі заслухалі справаздачы Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча, ягонага заступніка др. Барыса Рагулі, які апошнім часам выконваў абавязкі старшыні, сакратара скарбу сп. Віталія Кажана, сакратара архіву др. Раісы Жук-Грышкевіч. Былі абмеркаваныя пытаньні далейшага папаўненьня радоў Рады, арганізацыі працы, захаваньня архіўных матар'ялаў, сяброўскіх складак і збору грашовых ахвяраваньняў на палітычна-інфармацыйную дзейнасьць. Пастанавілі перагледзець статут Рады і ўвесьці ў яго адпаведныя зьмены.

У дыскусіях над справаздачамі рабілася шмат выказваньняў аб крыніцах фінансаваньня працы ды інфармацыйнай дзейнасьці Рады. У шматлікіх выступленьнях была дадзеная высокая ацэнка працы рэдактара-выдаўца англамоўнага «Беларускага Агляду» сп. Язэпа Арцюха.

На становішча Старшыні Рады БНР Сэсія абрала сп-ню Івонку Сурвілла, а еймымі заступнікамі сталіся др. Вітаўт Кіпель, др. Барыс Рагуля і сп. Сяргей Навумчык. У Прэзыдыюм Рады ўвайшло 18 асобаў, зь якіх будзе сфармаваны сакратарыят, як выканаўчы орган Рады.

На другі дзень працы Сэсіі, у нядзелю папаўдні, адбыўся банкет, на які быў запрошаны ў якасьці галоўнага прамоўцы сп. Дэйвід Сўорц, былы пасол Злучаных Штатаў у незалежнай Беларусі. У сваім выступленьні сп. Сўорц гаварыў пра падтрымку з боку Амэрыкі імкненьня Беларусі да дэмакратыі і незалежнасьці ды пра шляхі, якімі амэрыканскія беларусы могуць уплываць на палітыку Злучаных Штатаў. Амбасадару Сўорцу ад імя Рады БНР была перададзеная плякетка з адзначэньнем ягонага выдатнага ўкладу ў справу ўмацаваньня незалежнасьці дэмакратычнай Беларусі.



*Уручэньне плякеткі сп. Дэйвіду Сўорцу. Зьлева: др. Барыс Рагуля, др. Язэп Сажыч, сп. Сўорц, сп-ня Івонка Сурвілла.*

Сэсія прыняла рэзалюцыі і пастановы (гл. ніжэй), у якіх выказана стаўленьне Рады БНР да бягучых падзеяў у Беларусі і далейшага курсу дзеяньня.

## ЗАЯВА

### 22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:

*Аб становішчы ў Беларусі*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі з трывогай назірае за ўзмацненьнем рэпрэсійных дзеяньняў прамаскоўскага дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, накіраваных супраць асноўных правоў чалавека, законнасьці, свабоды і беларускай культуры. Пад пагрозай апынулася ня толькі дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі, але і існаваньне беларускай нацыі. У Беларусі фактычна адноўлены бальшавіцкі акупацыйны рэжым, зачынены амаль усе беларускія школы, зьліквідавана нацыянальнае ўзгадаваньне моладзі, дыскрымінуецца на кожным кроку беларуская мова. Урад выдае распараджэньні аб адабраньні нярухомай маемасьці беларускіх установаў і арганізацыяў, зачыняюць беларускія газэты і часапісы. Уведзена цэнзура на творы мастацтва, ліквідавана свабодная адвакатура. У судах і турмах пануе поўная самаволя ўрадавых функцыянэраў. Прэзыдэнцкая рэпрэсійная машына адкрыта дыскрымінуе беларусаў. Самаволя ўладаў у канфрантацыі з журналістамі дайшла да таго, што пачалі завастрацца канфлікты паміж шматлікімі замежнымі сродкамі масавай інфармацыі ды ўрадам Лукашэнкі.

Тымчасам эканамічны крызіс у Беларусі паглыбляецца ў выніку намаганьня ўраду трымаць усё пад сваім кантролем. Індэксацыя заработкаў і пэнсіяў не пасьпявае за інфляцыяй, якая ў першай палавіне гэтага году перавысіла 40 працэнтаў. Вартасьць беларускага рубля катастрафічна падае. Гандлёвы баланс рэспублікі пазначаны глыбокім дэфіцытам. Урад дарма намагаецца прыхаваць факт далейшага эканамічнага спаду маніпуляваньнем статыстыкі. Каб залатаць бюджэтныя дзіркі, урад рыхтуецца запушчаць ізноў у работу друкарскі станок на новую эмісію рублёў, якія яшчэ больш абясцэняць мізэрныя заработкі і пэнсіі.

*(Працяг на 2-й ст.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЗАЯВА

*(Праціяг зь 1-й ст.)*

Усе эканамісты, у тым ліку і ўрадавыя, прызнаюць, што адбудова беларускай эканомікі немагчымая без замежных інвэстыцыяў. Але інвэстыцыі не паплывуць у дзяржаву, якая не праводзіць рынкавых рэформаў.

У выніку арыентацыі Лукашэнкі на сілавыя мэтады кіраваньня, за Беларусьсю ў сьвеце замацоўваецца імя паліцыйнае дзяржавы. Апошні з цэлае сэрыі рэдакцыйных артыкулаў вядучых заходніх органаў незалежнага друку, газэты «Нью-Ёрк Таймс» (25.08.1997), загалоўлены «Расея і ейны тыранскі сусед». Гэта пра Беларусь пад кантролем прэзыдэнта-тырана. Зразумела, што з такою краінаю патэнцыяльныя заходнія інвэстары ня будуць наладжваць дзелавых сувязяў. Міжнародную ізаляванасьць Беларусі найлепш паказвае факт, што беларускі прэзыдэнт стаўся «невыездным» у дэмакратычныя дзяржавы. Ня хочуць і ў Беларусь ехаць ані заходнія турысты, ані бізнэсмэны. Культурны і навуковы абмен з Захадам зьведзены да мінімуму. Амаль спыніўся з замежных краін паток гуманітарнай дапамогі, бо галодны на валюту Менск наклаў сваю кантрольную руку і на гэтую дзялянку грамадзкай дзейнасьці.

Паліцыйны заціск свабоды паглыбляецца. Лукашэнкаў незаконны парлямант рыхтуецца цяпер прыняць папраўкі да закону аб друку, які пашырыць яшчэ больш беззаконьне чыноўніцкага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі.

У сувязі з вышэй сказаным Рада БНР асуджае паліцыйны антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і заклікае беларускае ды міжнароднае грамадзтва да супрацьдзеяньня ягонай дыктатуры, да змаганьня за аднаўленьне дэмакратычнага ладу ў Беларусі.

Рада БНР падтрымлівае ўсе беларускія нацыянальна-вызвольныя сілы, што змагаюцца за дэмакратыю, незалежнасьць і эўрапейскі шлях разьвіцьця Беларусі.

Рада БНР заяўляе, што адзіны выхад з тупіковага палажэньня, у якім апынулася міжнародна ізаляваная Беларусь, гэта — адстаўка Лукашэнкі, зварот да Канстытуцыі 1994 году і правядзеньне свабодных парляманцкіх выбараў.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997 г.*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:**

*Аб этнічнай дыскрымінацыі беларусаў і слуханьнях у Кангрэсе ЗША аб пагвалтаваньні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь*

22-я сэсія Рады БНР зьвяртае ўвагу ўрадаў дзяржаваў сьвету і міжнародных арганізацыяў на масавую ліквідацыю беларускамоўных школаў у Беларусі, на шматлікія факты зьбіцьця і арыштаў грамадзянаў рэспублікі байцамі прэзыдэнцкіх спэцслужжбаў толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Сэсія канстатуе наяўнасьць ня толькі маральнага, палітычнага, але і фізычнага перасьледу беларусаў на тэрыторыі Беларусі па нацыянальнай прыкмеце. Дзеля гэтага сэсія Рады БНР зьвяртаецца з прапановай да Кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі правесьці слуханьні аб фактах пагвалтаньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997 г.*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:**

*Аб радыё «Свабода-Свабодная Эўропа» і беларускамоўных перадачах іншых заходніх радыястанцыяў*

22-я сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ўважае, што пашырэньне вяшчаньня беларускай службы радыё «Свабода» ды запачаткаваньне беларускамоўных перадачаў «Голасам Амэрыкі» і радыястанцыямі іншых заходніх дзяржаваў ва ўмовах поўнай манаполіі прэзыдэнта Лукашэнкі на электронныя сродкі масавай інфармацыі становіча паўплывае на лёс беларускай дэмакратыі.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997 г.*

## МЭМАРАНДУМ

**22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:**

*Аб дзейнасьці Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, створаная дэмакратычнай воляй Беларускага Народу — носьбіт ідэі незалежнасьці і дэмакратычнага ладу ў Беларусі. Рада працягвае справу Беларускай Народнай Рэспублікі, падтрымлівае ажыцьцяўленьне прынцыпаў дзяржаўнасьці і дэмакратыі Беларусі, адлюстраваныя ў устаўных граматах Рады БНР 1918 году.

Рада БНР лічыць утварэньне Рэспублікі Беларусь і замацаваньне ейнай дзяржаўнай незалежнасьці ў Канстытуцыі 1994 году этапам на шляху да ажыцьцяўленьня ідэлаў БНР, аб чым красамоўна засьведчылі прынятыя Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня дзяржаўныя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня, а таксама канстытуцыйнае ды заканадаўчае замацаваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы.

Рада БНР, гэтак-жа як і дэмакратычныя дзяржавы Захаду, не прызнае незаконных лукашэнкаўскіх антыдэмакратычных структураў улады, створаных пасьля лістападаўскага перавароту 1996 году, ды асуджае прарасейскую акупацыйную палітыку, скіраваную на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, на зьнішчэньне беларускай культуры, беларускай мовы і беларускай нацыі.

Рада БНР будзе рабіць усе крокі, каб прадухіліць пагрозу незалежнасьці беларускай дзяржавы і існаваньню беларускай нацыі. Рада БНР зьвяртае ўвагу дэмакратычных урадаў і палітыкаў заходняга сьвету на пагрозу, што ідзе вольным краінам Усходняй Эўропы ад прамаскоўскага дыктатарскага рэжыму на Беларусі, які прапануе вярнуць у Беларусь расейскую ядзерную зброю.

*Нью-Брансвік*
*31 жнівеня 1997 г.*

**Увага!** **Увага!**

## ЛЯТАРЭЯ НА ПРАВА НА ЎЕЗД У ЗША

Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША нядаўна абвясьціў умовы чарговай візавай лятарэі, у выніку якой у 1988 г. будзе разыграна 55 тысячаў візаў (зялёных картак), якія даюць магчымасьць сталага жыцьця ў Амэрыцы. У мінулай лятарэі на Беларусі было атрымана 655 зялёных картак. Браць удзел у лятярэі могуць усе дарослыя асобы зь сярэдняй, як мінімум, асьветай.

Заяву трэба пісаць выразнымі ангельскімі літарамі на чыстым аркушы паперы. Трэба падаць пра сябе наступныя дадзеныя:

1. Прозьвішча і імя (прозьвішча трэба падкрэсьліць). Прыкладам: **Kaval, Anton.**

2. Дата (дзень-месяц-год) і месца (горад, вобласьць, краіна) нараджэньня. Прыкладам: **15 November 1961, Baranavichy, Brest, Belarus.**

3. Прозьвішча і імя жонкі (або мужа) і дзяцей. У выпадку выйгрышу аднаго з бацькоў нежанатыя дзеці векам да 21 году і жонка або муж таксама атрымліваюць права на візу. Муж і жонка могуць падаваць заяўкі асобна.

4. Паштовы адрас удзельніка лятарэі. Адрас павінен быць дакладны і акуратна напісаны. Узор:

**Belarus,**
**Kaval, Anton, Spartyunaja 24-6**
**22056 Minsk, Belarus**

Нумар свайго тэлефону падаваць не абавязкова, але не пашкодзіць.

Пералік асобаў сям'і Каваль трэба рабіць наступна (прозьвішча і імя, дата нараджэньня, месца нараджэньня):

**Kaval, Nina**
**12 July 1959, Homiel, Belarus**

5. У выпадку, калі краіна нараджэньня ўдзельніка лятарэі розьніцца ад краіны пражываньня (Беларусі), яе трэба назваць (прыкладам, Польшча ці якая-небудзь іншая).

6. Трэба далучыць таксама свой фатаздымак памерам 37 на 37 мм. На адвароце яго напісаць ангельскімі літарамі прозьвішча і імя. Фотаздымак прыляпіць да заяўкі кавалачкамі празрыстай клейкай істужкі. Скрэпкі ці шпількі рэкамэндуецца ня ўжываць, каб не перашкодзіла пры аўтаматычнай апрацоўцы заяўкі.

7. Падпісаць заяўку.

Пасылаць трэба звычайнай паветранай поштай. Ня будуць прыймацца заяўкі, высланыя заказной поштай або факсам. Заяўка павінна быць атрыманая апрацоўчым цэнтрам не раней і не пазьней як у пэрыядзе ад 24 кастрычніка да 24 лістапада 1997 году.

Канвэрт павінен быць у межах 15-25 цэнтымэтраў даўжыні і 9-11 цэнтымэтраў шырыні.

Там, дзе пішацца зваротны адрас (у верхнім левым кутку канвэрта), трэба перш па-ангельску напісаць краіну нараджэньня, а пад ёй адрасу-ж — сваё поўнае прозьвішча і імя, вуліцу з нумарам дому, горад і вобласьць, краіну пражываньня. Узор:

**Belarus**
**Kaval Anton**
**Spartyunaja 24-6**
**22056 Minsk, Belarus**

Заяўку паслаць на адрас:

**DV-99 Program**
**National Visa Center**
**Portsmouth, NH 00212 U.S.A.**

# ПАСТАНОВА

## РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

*Пра абарону самабытнага аблічча беларускае літаратурнае мовы*

Жывое бытаваньне і пэрспэктыва беларускае літаратурнае мовы на Бацькаўшчыне зноў апынуліся пад пагрозаю. Антыбеларускі рэжым пасьлядоўна выціскае беларускую літаратурную мову з асноўных сфэраў ейнага функцыянаваньня: адукацыі, культуры, навукі, дзяржаўных органаў, прэсы, кнігавыданьня і г.д.

Падобна як сталінскі рэжым у 1930-я гады, рэжым Лукашэнкі, адначасова зь перасьледам беларускае мовы наагул, робіць замах на ейную самабытнасьць. У 1933 г. правапіс і граматыка беларускае літаратурнае мовы рашэньнем Саўнаркому БССР былі валюнтарыстычна зрэфармаваныя дзеля палітычнае мэты: набліжэньня беларускае мовы да расейскае. Вынішчаліся непаўторнае аблічча й нормы беларускае літаратурнае мовы, што сфармаваліся натуральным эвалюцыйным чынам на падставе народных гаворак і жывой практыкі ды былі ўпадаркаваныя Браніславам Тарашкевічам.

Рада БНР, ідучы за воляю свабоднага беларускага грамадзтва, ня прызнала пастановы Саўнаркому БССР «Аб рэформе беларускага правапісу». Беларуская літаратурная мова пачала існаваць у двух правапісна-граматычных варыянтах: клясычным, што быў скадыфікаваны Б. Тарашкевічам і ягонымі наступнікамі, ды савецкім, зрусыфікаваным.

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя клясычная правапісна-граматычная традыцыя ня толькі адрадзілася на Бацькаўшчыне, але стала асноваю далейшага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы. Грамадзкія, культурныя арганізацыі, акадэмічныя колы выказаліся за перагляд пастановы Саўнаркому БССР 1933 г. «Аб рэформе беларускага правапісу». Пастанова была ацэнена як палітычна тэндэнцыйная ў Выніковым дакумэнце Дзяржаўнае камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускае літаратурнае мовы ад 2 лютага 1994 году. Дзяржаўная камісія і Правапісная камісія Таварыства Беларускае Мовы выпрацавалі прапановы, якія мелі на мэце ўніфікацыю зрусыфікаванага варыянту правапісу і граматыкі з клясычным.

Аднак рэжым Лукашэнкі, пераймаючы ў нацыянальна-моўнай палітыцы рэжым Сталіна, абмяжоўвае ўжываньне беларускае літаратурнае мовы ў ейным, не скажоным рэформаю 1933 г., правапісна-граматычным абліччы ды рыхтуе поўную забарону апошняга.

У сувязі з вышэй выкладзеным, грунтуючыся на дакумэнтах Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні (1933 г.), Таварыства Беларускае Мовы і ягонае Правапіснае камісіі (1991-1994 гг.), Дзяржаўнае камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускае літаратурнае мовы (1994 г.), камісіяў Беларускага Народнага Фронту па адукацыі і па культуры (1989-1997 гг.), Рада БНР пастанаўляе:

1. Лічыць клясычныя правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы, упарадкаваныя Б. Тарашкевічам і надалей кадыфікаваныя і ўжываныя ў слоўніках на Бацькаўшчыне і на эміграцыі, нацыянальным здабыткам, які падлягае дзяржаўнай апецы і абароне.
2. Ужываць у дзяржаўнай чыннасьці Рады БНР выпучна клясычныя правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы ды рэкамэндаваць іх да ўжытку ва ўсіх сфэрах функцыянаваньня мовы ў Беларусі.
3. Правесьці навукова-практычную канфэрэнцыю з мэтай удакладненьня нормаў правапісу і граматыкі беларускае літаратурнае мовы з улікам найноўшае моўнае практыкі.

*Нью-Брансвік, 31 жніўня 1997 г.*

## ЗЬЕЗД «МАЛАДОГА ФРОНТУ»

Як піс ала менская газ. «Свабода» (9.9.97), у сталіцы рэспублікі адбыўся зьезд моладзевае арганізацыі «Малады фронт». На зьезд прыбыло 218 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны. На ім прамаўлялі Старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі, выканальнік абавязкаў старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, было зачытанае пісьмовае прывітаньне ад старшыні БНФ Зянона Пазьняка, які знаходзіўся у Нью-Ёрку.

Шмат гарачых спрэчак на зьезьдзе было вакол пытаньня аб структуры кіраўніцтва «Маладога фронту»: выбіраць аднаго старшыню ці мець некалькі сустаршыняў? Нявялікай колькасьцяй галасоў перамог прынцып калектыўнага кіраўніцтва. Зьезд выбраў трох сустаршыняў, якімі сталіся кіраўнікі трох найбольшых рэгіянальных арганізацыяў: менскае — Павел Севярынец, магілеўскае — Алесь Асіпцоў і горадзенскае — Сяргей Паўленка. У Раду «Маладога фронту» выбралі больш за 40 асобаў.

## ЭЎРАПЕЙСКІ САЮЗ УДАРЫЎ ПА ЛУКАШЭНКУ

Рада міністраў Эўрапейскага Саюзу (ЭС) асудзіла 15 верасьня сёлета «антыдэмакратычную» пазыцыю, якую заняў беларускі ўрад, і асабліва прэзыдэнт Лукашэнка, у абліччы праблемаў, перад якімі стаіць Беларусь. У пастанове Рады ЭС сказана, што ў сувязі с «абструкцыяй», якую праводзіў урад Лукашэнкі ў перамовах з апазыцыяй, пры ўдзеле ў гэтых перамовах прадстаўнікоў ЭС, Рада ЭС пастанавіла спыніць перамовы і адмовілася ад усякае тэхнічнае дапамогі Беларусі.

Рада СЭ яшчэ раз пацьвердзіла, што яна ўважае Канстытуцыю 1994 году за адзіназаконную (якую, як ведама, Лукашэнка перапісаў на свой манер.

# СУСТРЭЧА З НОВЫМ ПАСЛОМ ЗША

Новы пасол ЗША у Беларусь сп. Даніэль Спэкгард сустрэўся ў Вашынгтоне 14 жніўня з прадстаўнікамі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў: Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (др. Янка Запруднік), Беларуска-Амэрыканскага Камітэту Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі (сп. Алекс Сільвановіч), Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Асьветнага Таварыства (сп-ня Галіна Русак). З прычыны розных аб'ектыўных акалічнасьцяў ня здолелі прыбыць на сустрэчу старшыня Беларуска-Амэрыканскага Камітэту сп. Расьціслаў Завістовіч, рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду» сп. Язэп Арцюх і прадстаўніца Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва сп-чна Алеся Кіпель. Але іхныя погляды былі перадзеныя першымі трыма прадстаўнікамі.

У гутарцы з новым амбасадарам дэлегаты перадалі ўстрывожанасьць амэрыканскіх беларусаў падзеямі ў Беларусі, асабліва заціскам свабоды слова і грубым парушэньнем правоў чалавека, дыскрымінацыяй беларускае мовы, манаполіяй ураду на тэлевізійныя і радыёвыя перадачы, абмяжоўваньнем магчымасьцяў пасылаць гуманітарную дапамогу беспасрэдна тым, каму яна прызначаная. Было выказанае пажаданьне, каб амбасада ЗША у Беларусі прысьвяціла больш увагі кантактам з абласнымі і раённымі цэнтрамі, а таксамам каб паспрыяла выхаду на Інтэрнэт беларускім грамадзянам, што зацікаўленыя ў набыцьці ведаў, якія даступныя сёньня на камп'ютэрнай сетцы.

Дэлегаты перадалі просьбу, каб у бібліятэцы Амэрыканскага інфармацыйнага цэнтру ў Менску былі беларускамоўныя выданьні са Злучаных Штатаў для тых наведнікаў бібліятэкі, што не валодаюць ангельскай мовай. Таксама было выказнае пажаданьне, каб пасольства знайшло спосаб інфармаваць беларуска-амэрыканскае грамадзтва пра сваю актыўнасьць у Беларусі. Такая інфармацыя і пашырэньне яе сярод амэрыканскіх беларусаў паспрыяе большаму зацікаўленьню выбаршчыкаў лучнасьцю са сваімі прадстаўнікамі ў Кангрэсе ЗША і заканадаўствам, якос мае дачыненьне да Беларусі.

## ПАСЬЛЯ ВІЛЬНІ ІЗАЛЯЦЫЯ ГЛЫБЕЙШАЯ

На думку камэнтатараў, сустрэча лідэраў 12 усходнеэўрапейскіх дзяржаваў, што адбылася ў Вільні 5-6 верасьня і на якой быў прэзыдэнт Лукашэнка, падкрэсьліла і паглыбіла міжнародную ізаляванасьць Беларусі. Усе прамоўцы на сустрэчы, за выняткам расейскага прэм'ера Чарнамырдзіна, а найвыбітнейшы эстонскі прэзыдэнт Ленарт Мэры, кр кавалі Лукашэнку за гвалтаваньне правоў чалавека ў Беларусі і адмову ад эканамічных рэформаў.

Сустрэча яшчэ раз падкрэсьліла, што няма ніякай асновы пад цьверджаньнем Лукашэнкі і ягонага міністра замежных спраў Івана Антановіча, што Захад крытыкуе Беларусь толькі таму, што ён не паінфармаваны пра сапраўднасьць на Беларусі. Хто можа лепш ведаць ход падзеяў у Беларусі як лідэры суседніх краінаў, што маюць і сваіх дыплятамаў у Менску, і карэспандэнтаў. І ўсе выступілі з крытыкай беларускага прэзыдэнта, пра якога адзін дыплямат у Вільні сказаў: «Лукашэнка — гэта сёньняшні Лысенка». За часамі Сталіна псэўданавуковец Лысенка вёў вайну супраць генэтыкі і іншых навукаў, і сёньня выглядае як шарлатан.

## ЗАМАХ НА ЛУКАШЭНКУ?

У часе сустрэчы ўсходнеэўрапейскіх лідэраў у Вільні 5-6 верасьня летувіская ўлады арыштавалі сямёх чалавек, якія належаць да патрыятычна-абароннае арганізацыі Летувы. Паводле заявы прадстаўніка летувіскага міністэрства нутраных справаў, сямёрка мела намер правесьці «правакацыйны акт». Такім «актам», на думку мясцовага друку, мелася быць забойства беларускага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, як дыктатара. Але летувіская пракуратура не знайшла дастаткова довадаў, і арыштаваных выпусьцілі на волю.

## ВЫБУХ У СУДЗЕ

У будынку суда, які знаходзіцца ў Савецкім раёне Менску, здарыўся 10 верасьня вялікі выбух. Пасьля яго хтосьці патэлефанаваў у рэдакцыю незалежнае газэты «Имя» і сказаў, што гэта быў акт Беларускае Вызвольнае Арміі (БВА). Падобныя заявы рабіліся раней.

Падаўшы пра ранейшыя выпадкі агенства РІА Новости зазначыла, што беларускія ўлады нічога ня кажуць пра тэрарыстычную дзейнасьць БВА.

Газэта «Имя» (11.09.97) ў рэпартажы пра выбух зьмясьціла пакінутую нейкім мужчынам (пасьля тэлефанічнага званка ў рэдакцыю) заяву БВА, напісаную па-беларуску. У заяве сказана:

«Мы, Беларускае Вызваленчае Войска, бярэм на сябе адказнасьць за выбух ля будынку Савецкага суда м. Менску. Патрабуем: Узнавіць дзеяньне Канстытуцыі 1994 года. Спыніць судовы перасьлед па палітычных матывах. Свабоду палітычны зьняволеным. Свабоду Паўлу Шарамету. Папярэджваем апошні раз паслугачоў рэжыму Лукашэнкі: за антынародныя дзеяньні яны будуць пакараныя асабіста. Жыве Незалежная, Дэмакратычная Беларусь!»

## *БЕЛАРУСЬ І НАТО: ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА?*

Генэральны сакратар Паўночна-Атлянтычнага Пакту Хав'е Саляна паведаміў міністэрству замежных спраў Беларусі, што ён прыймае запросіны ад прэзыдэнта Лукашэнкі наведаць Менск. Візыт Саляны прадбачыцца на канец кастрычніка сёлета. На сустрэчы Саляны з кіраўніцтвам РБ будуць абмяркоўвацца пытаньні супрацоўніцтва паміж абодвума бакамі і выпрацоўкі канкрэтных праграмаў. У красавіку сёлета Менск перадаў у Брусэль праект статуту аб партнэрстве з НАТО.

Беларусь тут рухаецца па сьлядох Расеі і Украіны, якія ўжо маюць дамоўленасьць з НАТО аб узаемадачыненьнях, хоць кожная зь іх на свой манер.

## НАД МАГІЛАЙ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ-КУШАЛЬ

25 ліпеня 1997 году, у шпіталі ў Рочэстар, Нью-Ёрк, ЗША, у 5 гадзін раніцы перастала біцца сэрца нашае паэткі Натальлі Арсеньневай. Жыла яна на працягу амаль цэлага 20-га стагодзьдзя. Нарадзілася 20 верасьня 1902 г. — два гады пасьля пачатку стагодзьдзя й дажыла да трох год перад яго канцом. Пражыла дзьве сусьветныя войны, бежанства, савецкія турмы, ссылку ў Казахстан, і памерла на эміграцыі. У суме пакінула сына Уладзімера, унукаў Натальлю й Пятра, жонку Пятра й двое праўнукаў.

У апошняе падарожжа на могільнік у Рочэстары, дзе лягла Яна на вечны супачын побач свайго мужа генэрала Францішка Кушаля, пад манумэнтальным помнікам Крыжа ды букетамі бел-чырвона-белых (з Канады) і іншых кветак, праводзілі мы Яе 28 ліпеня зь бел-чырвона-белым сьцягам, багаслужбай-літургіяй у касьцёле, дэклямацыяй ейнага верша «Над паўстанскай магілай», памінальнымі прамовамі, напевамі «Вечная памяць» і «Магутны Божа».

Прамаўлялі на паховінах: сьвятар; ад беларускага грамадзтва Канады старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч; ад Рады БНР (Натальля Арсеньнева-Кушаль была сябрам Рады БНР), БАЗА й ягонага старшыні Антона Шукелойця др. Янка Запруднік; ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку (у якім Н. Арсеньнева-Кушаль была доўгагадовым сакратаром) старшыня БІНіМ др. Вітаўт Кіпель.

Бог, натура, кон надзялілі Натальлю Арсеньневу вялікім дарам: паэтычным геніем, чуткім сэрцам, багатай душой даўгім жыцьцём.

Як яна сама ў 1969 годзе ў Канадзе на літаратурнам вечары, арганізаваным Згуртаваньнем Беларускіх Жанчын Канады, казала: «Жыць сьведама я пачала ў Вільні, якую я й лічу сваёй бацькаўшчынай, якую люблю й па якой я найбольш сумую». У гэтай старажытнай сталіцы, у Віленскай Беларускай Гімназіі пад уплывам і кіраўніцтвам перадусім Максіма Гарэцкага, тады настаўніка гэтай школы, разьвіваўся, рос і мужнеў ейны паэтыцкі талент, фармаваліся беларуская нацыянальная сьведамасьць і патрыятызм.

Першы ейны верш быў надрукаваны ў 1921 годзе, а ў 1927-м выйшаў у Вільні першы ейны зборнік вершаў «Пад сінім небам». Беларускі літаратурны сьвет вітаў зьяўленьне новай, без сумліву здольнай паэткі. Вершы Натальлі Арсеньневай друкаваліся ў Вільні ў літаратурных часапісах, як «Родныя гоні», «Нёман», «Калосьсе» ды іншых. З гэтых новых лірычных твораў быў зложаны наступны зборнік «Жоўтая восень», які аднак ня выйшаў друкам.

Вялікі зборнік вершаў «Між берагамі» — гэта выбраныя самой паэткай вершы, што друкаваліся на працягу 50-ці год ейнай літаратурнай творчасьці, ад 1920 да 1970 году — быў выданы Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1979 годзе. Пазьнейшыя вершы друкавалася ў беларускай пэрыёдыцы.

У 1996 годзе ў Менску выйшаў зборнік выбраных вершаў Натальлі Арсеньневай «Яшчэ адна вясна».

У сваёй даваеннай творчасьці, у зборніках «Пад сінім небам» і «Жоўтая восень», паэтка апісвае прыгажосьць прыроды й сьвету. Пасьля арышту й ссылкі ў Казахстан, ды ў гадох вайны ейная творчасьць адлюстроўвае людзкую трагэдыю, жахі вайны, любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі.



*Шлях у вечнасьць. Труну Натальлі Арсеньневай нясуць: (справа) сын Уладзімір Кушаль і ўнук Пітэр Кушаль, (зьлева) Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель.*

У гэтым часе яна таксама шмат працуе над стварэньнем беларускага рэпэртуару для тэатру опэры ў Менску. Напісала лібэрта да опэраў Міколы Шчаглова: «Лясное возера», «Усяслаў Чарадзей» ды «З выраю». Пераклала на беларускую мову Г. Гаўптмана «Затонуты звон» і Г. Кляйста «Разьбіты кубак» ды іншыя.

Шмат вершаў Натальлі Арсеньневай пакладзеныя на музыку кампазытарамі М. Куліковічам, М. Равенскім, Э. Зубковіч і А. Карповічам. Да найважнейшых песень належаць жаўнерскія: «Беларусь, наша маці-краіна» й «У гушчарах затканых імглою» ды рэлігійны гімн «Магутны Божа». Паваенная паэзія паэткі патрыятычная. Сваёй творчасьцю Натальля Арсеньнева зрабіла вялікі ўклад у беларускую ды й сусьветную літаратуру.

Натальля Арсеньнева, побач свайго мужа генэрала Францішка Кушаля, была таксама грамадзкай, палітычнай ды асьветна-культурнай дзеячкай. Ды найважнейшай была ейная асаблівая ў нашых часох роля: сваімі натхнёнымі песьнямі й вершамі яна будзіла, уздымала да вышынь душы перадусім маладое ды й старэйшае пакаленьне беларускага грамадзтва за мяжой, а цяпер і ў Беларусі.

Чым жывіліся на працягу другой паловы нашага стагодзьдзя душы беларускіх жаўнераў, скаўтаў ды наагул моладзі, як ня ейнымі песьнямі й вершамі. Зь якім гімнам падымалі беларускія жаўнеры й скаўты кожнай раніцы бел-чырвона-белы сьцяг, як ня ейнай песьняй «Прысяга»:

*Беларусь!*
*Наша маці-краіна!*
*Ты з нас моцных зрабіла людзей.*
*Не загінулі мы і ня зьгінем,*
*Пакуль Ты нас наперад вядзеш!*
*Пастаім за Цябе, як асілкі,*
*нашы сэрцы палаюць агнём,*
*дружна, мужна*
*за лёс Твой расьцьвілы*
*супраць Чорнае Моцы мы йдзём.*
..........
*Прысягаем*
*Табе мы сягоньня,*
*што пакуль хоць адзін з нас жыве, —*
*нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні,*
*мы ня зганьбім.*
*мы ўславім яе!*

Якім улюблёным маршам жаўнераў, скаўтаў ды наагул моладзі была ейная песьня "У гушчарах»!

*Хмараў дым над галовамі тае,*
*вецер дыхае мятай, быльлём.*
*Беларусь, Беларусь залатая,*
*за Цябе, за Цябе мы ідзём.*

Якім гімнам у беларускіх сьвятынях мы канчаем багаслужбы, як ня гімнам «Магутны Божа!». «Магутны Божа» пяе цяпер ня толькі беларускае замежжа, але і Беларусь. Словы «Магутны Божа» выбітыя на мэталёвай таблічцы на Беларускім памятным Крыжы на прошчы ў Мідляндзе ў Канадзе. Верш Натальлі Арсеньневай «Крыж» апявае асьвячэньне Беларускага памятнага Крыжа ў Канадзе.

Беларускія тэксты абедзьвюх малітваў на беларускіх малітоўных картках, што ў мідляндзкай прошчы, належаць таксама пяру Натальлі Арсеньневай. Можа мы дасканала не здаем сабе справы з таго, як духова былі-б мы бяднейшыя, калі-б у нас ня было натхняльнай паэзіі Натальлі Арсеньневай. Духовае багацьце, якім яна нас надзяліла, застанецца зь беларускім народам назаўсёды.

У пазамінулым тысячагодзьдзі, перад нараджэньнем Ісуса Хрыста, рымскі паэт Гарацый пісаў:

*Ня ўвесь я памру, большая частка мяне застанецца някранутай Лібітыны страпой.*

Так і нашая паэтка Натальля Арсеньнева не памерла ўся, большая частка яе жыве й жыць будзе праз наступнае тысячагодзьдзе.

Зь любоўю й пашанай схіляем нашыя галовы перад Тваім Духам і Тваімі астанкамі, Пясьнярка!

Слава й вечны супакой душы Тваёй, Натальля Арсеньнева-Кушаль!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ФОНД ПАМЯЦІ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

Гэтым падаецца да ведама, што заснаваны Фонд памяці Натальлі Арсеньневай, у кіраўніцтва якога ўвайшлі др. Раіса Жук-Грышкевіч, сп-ня Івонка Сурвілла і сп-чна Алеся Кіпель. Мэта фонду — дапамагаць матар'яльна студэнтам зь Беларусі, якіх улады перасьледуюць за нацыянальна-палітычныя перакананьні. Ахвяраваньні на фонд просіцца пасылаць на адрас др. Раісы Жук-Грышкевіч і на ейнае прозьвішча выпісваць чэкі:

Dr. Raisa Zuk-Hryskievic
54 Mary Street
Barrie, Ont. L4N 1T1 CANADA

## *ПРА Н. АРСЕНЬНЕВУ Ў АМЭРЫКАНСКАЙ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ*

У 1981 годзе ў Нью-Ёрку выйшаў першы том абноўленага чатырохтомнага выданьня «Энцыклапэдыі сусьветнай літаратуры ў 20-м стагодзьдзі» (Encyclopedia of World Literature in the 20th Century. Leonard S. Klein, General Editor. Frederick Ungar Publishing Co.). У кнізе зьмешчаны артыкул Янкі Запрудніка пра Натальлю Арсеньневу (а таксамам пра Васіля Быкава і Максіма Багдановіча; там-жа і артыкул праф. Томаса Бэрда пра беларускую літаратуру).

У артыкуле пра Натальлю Арсеньневу, апрача біяграфічных і бібліяграфічных дадзеных, сказана:

«У Менску ў часе (2-й сусьветнай) вайны Арсеньнева пераклала некалькі лібрэта з заходняга рэпэртуару ды сама пісала п'есы і песьні. Шмат якія ейныя вершы былі пакладзеныя на музыку. Верш на рэлігійную тэму, «Магутны Божа» (1943 г.), музыку да якога напісаў Мікола Равенскі, цяпер пяецца па беларускіх цэрквах на Захадзе, праваслаўных і каталіцкіх.

Хоць ад гімназіяльных гадоў Арсеньнева далучылася да беларускае справы, ейная паэзія перад Другой сусьветнай вайной была пэрсанальная і лірычная, такім чынам адрозьніваючыся ад вершаў ейных беларускіх сучасьнікаў, у якіх пераважала сацыяльна-палітычная тэматыка. Вершы Арсеньневай з таго пэрыяду зіхцяць прыгажосьцяй прыроды, асабліва «жоўтае восені», захапленьнем сінім зорным небам, таямнічасьцяй сусьвету ды задуменнай цягай да няведамага. Праз усё гэта пульсуе аптымістычная смага жыцьця. З гэтага гледзішча Арсеньнева стаіць блізка да Максіма Багдановіча.

Цяжкасьці савецкага выгнаньня і жуда Другое сусьветнае вайны выклікалі да жыцьця новыя якасьці паэзіі Арсеньневай: балючую праняласьць лёсам свае краіны, духовую сілу, вялікую адвагу і заклікі да вытрываласьці як адзінага спосабу выравацца з рук кону кавалак долі.

Вэрсыфікацыя ў Арсеньневай традыцыйная, багатая сугуччам і алітэрацыямі, з узьнёслым тонам. Праведшы толькі дваццаць гадоў жыцьця ў Беларусі, паэтка дала творы адметныя багацьцем мовы і фальклёру, складу і эрудыцыі».

## ВЕЧАР НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Аднэй зь вялікіх падзеяў у жыцьці беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы быў Беларускі тыдзень на Атаўскім унівэрсытэце 19-27 красавіка 1975 г. Арганізаваў яго Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Канадзе ў супрацоўніцтве са Славянскім аддзелам Атаўскага ўнівэрсытэту і з аддзелу Атаўскага ўнівэрсытэту праф. Біда, праф. Багдан Пляскач, украінскі паэт Яр Славутыч. Урачыстасьць вёў праф. Антон Адамовіч, а дэклямавалі вершы паэткі др. Янка Запруднік, спня Вера Бартуль, сп-чна Эва Пашкевіч, праф. Вольга Арэхва ды сама Натальля Арсеньнева. Падчас прыняцьця,



*Натальля Арсеньнева чытае свае вершы. Зь ёю за сталом — праф. Антон Адамовіч. Фота Янкі Сурвіллы.*



*Кветкі Натальлі Арсеньневай перадаюць Юльляна Грыцук і Ганя Сурвілла. Фота Янкі Сурвіллы.*

Канадзкім Нацыянальным Музэем Чалавека. У праграме Тыдня адбыўся вечар паэзіі, прысьвечаны Натальлі Арсеньневай. У прысутнасьці паэткі і шматлікіх гасьцей выступалі, апрача арганізатараў, старшыня Славянскага якое адбылося пасьля афіцыйнай часткі праграмы, беларускія дзяўчаткі ў нацыянальных строях, Ганя Сурвілла і Юльляна Грыцук, падарылі паэтцы букет бел-чырвона-белых кветак.

**ЯШС**



## *МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ-КУШАЛЬ*



*Натальля Арсеньнева ў 1973 годзе. Фота Янкі Сурвіллы.*

Быць у бліжэйшых адносінах з Натальляй Арсеньневай Кушаль я мела гонар і шчасьце дзякуючы таму, што мой муж Вінцэнт і Натальля Арсеньнева былі сябрамі яшчэ з пачатку 1920-х гадоў, з часоў Віленскае Беларускае Гімназіі. У вершы «Дарагому Вінцуку — сябру юнацтва», прысьвечаным ягоным 70-м угодкам жыцьця, Натальля Арсеньнева кажа:

*...Вось Базыльянскія муры.*
*У клясе — ціўшыня густая...*
*А мы,*
*да позьняе пары,*
*З Табой наш часапіс складаем...*

*І хай Ты Прэзыдэнт цяпер,*
*хай муж дастойны, санавіты, —*
*а для мяне Ты ўсьцяж, сампэрш*
*— сябрук ціхі і працавіты.*
*Ня той, што шлях пакут дакук прайшоўшы,*
*нас тут сяньня госьціць,*
*а ў шэрым фрэнчыку Вінцук*
*з тых вечароў,*
*з той маладосьці...—*

Сяброўства Натальлі Арсеньневай і Вінцэнта Жук-Грышкевіча трывала да сьмерці Вінцука, калі Натальля Арсеньнева ўзноў яму піша:

*Памёр... няма... і анідзе у сьвеце*
*не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,*
*хай восень зноў сьпляце нам залатыя сеці,*
*хай зазяленяцца узноў вясновыя лагі.*

*...як заміріцца з тым, што ня сустрэцца болей*
*нам у жыцьці з Табой*
*ні ў шчасьці, ні ў бядзе?*

Раней, у 1960-х-70-х гадох, мне з мужам часта прыходзілася бываць у Нью-Ёрку, і ня раз мы гасьцілі ў спадарства Кушаляў у Брукліне, а пасьля, калі яны перабраліся ў Рочэстар, па дарозе дамоў зь Нью-Ёрку таксама заяжджалі да іх. Некаторыя сябры жартавалі, што Рочэстар належыць больш да Канады, чымся да ЗША. У 1965 годзе пры ЗБК было зарганізаванае Згуртаваньне Беларускіх Жанчын Канады. Жанчыны запрасілі паэтку Натальлю Арсеньневу быць ганаровай сяброўкай іхняй арганізацыі, на што яна ласкава згадзілася. А вясной 1969 году мы, сяброўкі ЗБЖК, запрасілі яе ў Таронта на прысьвечаны ёй і ейнай творчасьці літаратурны вечар. Імпрэза была людней і надзвычай удалай. Бралі ў ёй удзел ня толькі беларусы з розных мясьцінаў Канады, але й ЗША. Былі даклады пра творчасьць паэткі, яна расказала пра сваё жыцьцё, удзельнікі імпрэзы дэклямавалі яе вершы, усе разам пяялі ейныя песьні. Зрабілі мы супольную фатаграфію. Паэтка атрымала падарункі: чырвоныя ружы й салодкія прысмакі. Знаёмства й цяснейшая сувязь замацаваліся. Бывала Паэтка ў нас на розных імпрэзах. У часе сьвяткаваньня тысячагодзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі ў 1980 годзе, яна афіцыйна адкрыла выстаўку, што была наладжана з нагоды сьвята.

Былі шчасьлівыя часіны й тады, калі Натальля Арсеньнева із сваёй унучкай Натай езьдзілі з намі на летнія канікулы на раку Атаву. Там на лодцы на неабсяжным прасторы вады, «пад сінім небам» цешыліся мы жыцьцём і сьветам, чыстым, як званок, паветрам, а на захадзе сонца разам зь ім услаўлялі Усявышняга. Там злоснымі хвалямі бушаваў ня раз вецер, грозна кідаў з боку на бок лодку. А ў цёмнай глыбіні ракі жыравалі на меншую рыбку шчупакі. А шчупакоў прынадамі на кручок лавілі рыбакі.

Там над ракой Атавай хадзілі мы з Паэткай па лясох у грыбы. У тым-жа разьвітальным вершы яна кажа Вінцуку:

*(Працяг на 6-й ст.)*

# МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА Н. АРСЕНЬНЕВУ-КУШАЛЬ

*(Працяг зь 5-й ст.)*

*Любіў і Ты, — як я, — блукаць па пералесках,*
*спыніцца ў гушчары, скамечыць мох мяккі,*
*яшчэ й яшчэ чытаць ад крыскі і да крыскі,*
*баляды, што дубы зьбіралі праз вякі...*

*Мой сябра дарагі!*
*Нялёгкімі гадамі*
*нам давялося жыць,*
*відаць наш Кон такі.*
*Ды мы брылі. Ступой*
*ішоў і Кон з намі,*
*ды запыніў Цябе кіўком рукі.*
*Стаю... ўжо адна...*

Ды пакуль гэта сталася, Паэтка на працягу 1987-га й 88-га году цесна супрацоўнічала з намі ў пабудове Беларускага памятнага Крыжа ў канадыйскай прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у Мідляндзе ў правінцыі Антарыё. Яна была прысутнай 5 верасьня 1988 году на асьвячэньні Крыжа й апела падзею адзначэньня намі тысячыгодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі вершам «Крыж»:

*Як вокам сьКінуць —*
*сьцяг пушчаў сініх...*
*За пушчай далеч, яшчэ сіней...*
*А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі*
*наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...*

*Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,*
*шмат просьбаў, выкліканых бядой.*
*Прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць каленьні,*
*сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.*

*«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай*
*краіну нашу», маліўся хор,*
*і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай*
*хіліўся, ветру наперакор.*

*А вецер дужаў, кудысь аблокі*
*зусім павосеньску ўжо плылі.*
*Маўчала прошча, унізе-ж далёка*
*сінелі зарасьнікі й палі.*

*– «Магутны Божа», бяз слоў прасілі*
*мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвыш,*
*стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле*
*ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.*

*Тут — дождж імгненна каменьне сьпяміў,*
*рассыпаў кроплі ў траве, ў лісьці...*
*Няйначай —*
*і Нехта дзесь там, над намі,*
*наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.*

*Прошча, 5 верасьня 1988 г.*

За год прыйшоў час на першае паломніцтва да Беларускага Крыжа. Прыехала з Рочэстару Натальля Арсеньнева, але ня стала ўжо ейнага сябры, кіраўніка пабудвы Беларускага Крыжа, Вінцука Жук-Грышкевіча. 14 лютага 1989 году «Кон запыніў Яго кіўком рукі». На гэтым скончылася сяброўства Натальлі зь Вінцуком, а ўзмоцнілася яно між Натальляй Арсеньневай і мною. Ужо разам зь Ёю ў паразуменьні з а. Аляксандрам Надсонам ды дырэктарам прошчы а. Джэймсам Фаррэлам, таксама ўжо нябошчыкам, мы зрыхтавалі для прошчы ў Мідляндзе беларускія малітоўныя карткі. Яна зрэгдавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Францішка Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі» (Вільня, 1522) і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову. Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа прыяжджала да мяне ў Бэры на тыдзень Натальля Арсеньнева рыхтавацца да, і быць удзельнікам паломніцтва. Прыяжджаў праводзіць паломніцтва й а. Аляксандар Надсон зь Лёндану, Англіі. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад сьвятымі абразамі Ўкрыжаваньня і сьв. Еўфрасіньні Полацкай адпраўляў ён Літургію. Тады маліліся мы і за супакой душ сьв. пам. Францішка Кушаля й Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Ішлі гады. І з году ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыяжджала Натальля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацьвертае, пятае, і здавалася, што так яно будзе заўсёды. Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час і Натальля кажа: не магу прыехаць. Нешта не здаровіцца. Нічога, Наталка, — кажу, — на наступны год прыедзеш! Просіць Натальля перадаць усім прывітаньні і шкадаваньні, што ня можа быць разам з намі.

Прыйшоў 1996 год, набліжаецца важнае 8-е паломніцтва. Важнае тым, што ў часе яго адбудзецца высьвячэньне помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. У тэлефанічнай гутарцы гаворым аб гэтым з Натальляй Арсеньневай. Ізноў яна кажа — мусіць не змагу прыехаць... Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітаньні й шкадаваньні, што ня можа быць разам з намі. Паломнікі выслалі Ёй свае прывітаньні на падпісанай усімі паштоўцы Беларускага Крыжа. Пасьля, калі ў тэлефанічнай гутарцы я расказвала пра паломніцтва, пра тое, што мы Яе ўспаміналі, Яна мне кажа: «Трэба было табе прачытаць верш 'Крыж'...»

Таму я ведала, што ў часе паховінаў Паэткі абавязкава трэба было прачытаць ейны верш, запяяць «Магутны Божа», што мы й зрабілі. І веру, што ці то Сьвяты Дух, ці дух Натальлі Арсеньневай натхніў сьвятара запрапанаваць мне прачытаць у касьцёле верш Паэткі, што я з удзячнасьцяй зрабіла. Таму я й тут цытую Ейныя вершы. Ведаю, што Яна гэта жадала-б.

Прыйшла зіма й вясна 1997 году. Звоніць унучка Паэткі й кажа: «Благая вестка. Баба ўпала, зламала бядро й руку. Цяпер яна ў шпіталі». Падала ўнучка-Ната нумар тэлефону, куды можна званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом бядра дабра не варожыць. Вінцук на чацьверты дзень пасьля такое прыгоды памёр. Сэрца не вытрывала. Але Натальля Арсеньнева мела моцнае сэрца і, як здавалася, зялезнае здароўе. Хутка пасьля апэрацыі звоніць ізноў унучка й кажа: «Добрая вестка. Баба ўжо магла стаць на свае ногі й зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў.» Званіла я ў шпіталь. Натальля гаварыла пра сваё гора і цяжкасьці, але была добрае надзеі. Вярнулася дамоў й памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсьцяж кружылі вакол зьяўленьня ў «Запісах» ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага «Песьня пра зубра» і выхаду з друку ў Менску кнігі ёйнай творчасьці. Ды, як то бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора Паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічога добрага не варожаць. Бядуе мне па тэлефоне, што з вачыма няма папраўы: «Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусім асьлепну?!» Ды ўсё ня траціць надзеі. І думкі сабе не дапускае, што можа гэта прыходзяць ёй канцы... Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачох. «Але фізычныя болі я магу пераносіць — кажа мне — найцяжэй з духовымі. Чуюся такая сама й пакінутая прыяцелямі й сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цалюськім сьвеце. Ніхто не пазвоніць... Што чуваць зь Нью-Ёрку?»

— У Нью-Ёрку амаль нікога не засталося, кажу ёй, шмат хто з Тваіх сяброў і калішніх супрацоўнікаў адыйшоў ужо на той сьвет. Кожны раз як канчаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю і просіць далей не забываць... Званіла я да яе кожную суботу, а пасьля й часьцей.

Прыходзяць лісты зь Беларусі, ня можа на іх даць адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў «Беларусе» пра ейную трагічную сытуацыю. Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша да мяне й да Паэткі цёплы ліст, запэўняе яе аб нашай да яе пашане й любові.

У цёплыя сонечныя дні апляецца Натальля: «У нас сёньня такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога ня бачу. Бачу толькі зарысы стала, крэсла, і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усьцяж фразы, рыфмы. ... Пісала, каб бачыла...» Пазьней стала наракаць на вялікае аслабаленьне, і на тое, што нічога есьці ня можа.

Ізноў візыта ў лекара, ізноў дасьледаваньні й ізноў благая навіна. 25 чэрвеня лекары зрабілі дыягноз рака, які ўжо разыўшоўся на целе. Засталося два, тры месяца жыцьця, кажуць.

«Што рабіць!?» — пытаецца Натальля ў мяне. «Засталося мне толькі тры месяцы жыцьця?» Кажу ёй: «Дзякуй Богу за такое даўгое й творчае жыцьцё. Ты пакінеш па сабе не абыякі сьлед. Усё тое, што Ты напісала, застанецца назаўсёды. Цешся, і дзякуй Богу за гэта!» Яна прызнае, што пражыла амаль 95 год, але гэта ніякае для яе не апраўданьне, што за тры месяцы павінна памерці. Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцьця.

Цяпер я стаpалася тэлефанаваць да Яе часьцей. Паэтка стала моцна слабець, і гутарыць Ёй зрабілася цяжка. Пазваніла я неяк, тэлефон узяў сын. Пытаю, ці магу гаварыць зь ягонай мамай. Кажа: «Нажаль не, мама надта слабая. Ня зможа ўстаць падыйсьці да тэлефону.»

— Перадайце ёй, калі ласка, ад мяне прывітаньні й маю для яе любоў — кажу.

— Пачкайце! — кажа Влодак.

Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесьці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазвалася Наталка. Зь цяжкасьцяй вымаўляла слова за словам. «Не забывай!...» — былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба...

— Цябе, Наталка, я моцна, моцна люблю й ніколі, ніколі Цябе не забуду — былі мае апошнія словы да Яе жывой. Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на паховіны. Хто ведае, мо яна пра гэта й прасіла?... Пазваніла я праз дзень ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі, у коме. А ў пятніцу 25 ліпеня, роўна месяц пасьля злавеснага дыягнозу, пазваніў Влодак, што ў 5 гадзін раніцы памерла мама. Вечны ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць беларускае грамадзтва Канады й перадаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лёндан, Англію, а. А. Надсону, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, а тым самам і ад сябе, і на другі дзень, у суботу выехала ў Таронта, а стуль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочэстар. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахавальным доме, дзе між кветак у дамавіне спачывала цела мае дарагое сяброўкі Натальлі Арсеньневай. Над целам яе прачытала я паніхіду. Гэтак калісь дома ў Пружанах, у Беларусі, суседзі зьбіраліся чытаць беспярапынна над целам нябожчыка малітвы. Малілася за Яе й дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць зь Ёю — нашай паэткай Натальляй Арсеньневай. І было ў мяне такое адчуваньне, што моцны дух Натальлі з намі, кіруе намі й кажа нам:

«Цяпер, пазбыўшыся зьнішчанага жыцьцём і хваробай цела, я вольная й мацнейшая, як калі!»

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ФУНДАЦЫЯ СОРАСА Ў БЕЛАРУСІ ЗАЧЫНЕНАЯ

Фундацыя амэрыканскага мільярдэра Джорджа Сораса спыніла сваю дзейнасьць у Беларусі, паводле паведамленьня кіраўніцтва фундацыі ў Менску і Нью-Ёрку 3 верасьня сёлета. Вестку пра гэта падалі агенцтва Ройтэра і газэта «Нью-Ёрк Таймс» (4.IX). У заяве сорасаўскае фундацыі сказана, што «зачыненьне фундацыі — гэта частка праграмы дзейнасьці беларускіх уладаў, скіраванае на зьнішчэньне грамадзянскае супольнасьці і незалежных сродкаў інфармацыі».

За апошнія чатыры гады дзейнасьці ў Беларусі Фундацыя Сораса выдаткавала 13 мільёнаў даляраў на адукацыйныя, культурныя і дабрачынныя мэты, у тым ліку беларускія пераклады кніжак заходніх вучовых. А дзеля таго, што некаторыя праекты ў гэтай дзейнасьці былі не даспадобы прэзыдэнту Лукашэнку, беларускія ўлады ў травені сёлета запатрабавалі ад фундацыі тры мільёны даляраў падаткаў. Фундацыя адмовілася, уважаючы гэта за палітычны шантаж. Перамовы да нічога не давялі.

У Вашынгтоне Джон Фокс, кіраўнік Інстытуту Адкрытага Грамадзтва, да якога належаць сораўскія фундацыі, сказаў, што нідзе ў былых камуністычных краінах нас не зачынялі, а «беларускія ўлады адзначыліся тым, што змусілі нас спыніць дзейнасьць».

*ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД*

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

## Н. АРСЕНЬНЕВА І «ПЕСЬНЯ ПРА ЗУБРА»

*Апошні твор, што пабачыў сьвет пры жыцьці Н. Арсеньневай, — пераклад «Песьні пра Зубра» М. Гусоўскага, надрукаваны летась у «Запісах БІНІМ». Праца над перакладам пачалася яшчэ напрыканцы 70-х, зь ініцыятывы доктара В. Тумаша. Існуючыя пераклады знакамітай паэмы не задавальнялі яго; няскончаны пераклад Каспровіча ён лічыў дакладным, але замала паэтычным, дзе да таго-ж быў зьменены рытм арыгіналу. Літоўскі пераклад В. Казлаўскаса пэдантычна дакладным, але па памеру набліжаным да перакладу Каспровіча. Пераклад на расейскую мову Парэцкага, наадварот, недакладным, бо пераўзыходзіў арыгінал на 72 радкі. Пераклад Я. Семяжона ацэньваўся як палітычная пераробка паэмы. Таму доктар Тумаш прапанаваў зрабіць новы пераклад (з дапамогай Ч. Сіповіча), які-б адпавядаў арыгіналу і ў мастацкіх якасьцях, і з палітычнага гледзішча. У лістах Н. Арсеньневай да В. Тумаша, што цытуюцца ніжэй, — пра працу над перакладам, пра паэта Гусоўскага і перакладчыка Семяжона.*

Даражэнькі спадар Доктар, нарэшце сабралася Вам адпісаць. Матар'ялаў да перакладу ў мяне цяпер, хіба, хапае. Ідэалам, праўда, быў-бы так званы падрадкоўнік — дасло́ўны пераклад прозай кожнага лацінскага радка, але я разумею, што пры нястачы ў нас сапраўдных лаціністых гэта немагчыма. І таму трэба абыйсьціся тым, што ёсьць. Каспровічаў пераклад бліжэйшы да арытмэтыкі, чымся паэзіі, і ў ім чамусьці шмат чаго няма. Думаю, што пры карацейшым радку яму даводзілася выпушчаць некаторыя падрабязнасьці. Але, ведама, калі «на чорна» перакладу ўсё, буду карыстацца й Каспровічам. Перакладаць, заглядаючы ў кажны радок, я ня ўмею. Бо калі чалавек занурыцца ў пераклад, словы й сказы неяк самі пачынаюць імкнуць, і перарываць іхны імпэт, штораз заглядаючы ў пераклад чужы, спрычыняецься да таго, што перарываецца натхненьне й трэба нанова «разаграваць машыну». Ну, а калі будзе скончана праца, дык «на халодна» можна будзе й пераглядаць, і параўноўваць, і папраўляць. Дагэтуль я пераклала 272 радкі. Ад Калядаў, у студзені, блізу нічога не пераклала, розныя клопаты й іншае не давалі часу спакойна ўзяцца за працу. За тыдзень мяркуем ехаць у Флярыду, там — Вялікдзень, шмат за гэты час ня зробіцца. Але тады спадзяюся зноў паймкнуць наперад. Я перакладаю «Зубра» з прыемнасьцяй. Да душы мне й разьмер верша, зусім быццам вецер плыве на вершалінах дрэваў у пушчы. Гусоўскі, відаць, быў сапраўдным паэтам. (8.02.78)

Даражэнькі спадар Доктар, зь вялікім спазьненьнем адказваю на Вашыя лісты ў справе «Песьні пра Зубра». Пераклад Семяжона прачытала пару разоў. Ён добры з аднаго боку, але немагчымы — зь іншых. Першае, ён цалкам супярэчыць асьветчаньням аўтара «Песьні». У адным месцы сам Гусоўскі кажа, што ён стараецца ўжываць толькі гэткія словы й выразы, якія будуць да спадобы ягонаму апякуну й працадаўцы, Біскупу Эразму Плоцкаму і «ў згодзе із станам сьвятарскім». А ў Семяжона раз-пораз гэткія выразы, як «нагой у азадак», «дрэйфіў», "адвальваў ня скупа» (гэта Вітаўт — сьвятарству!). Гэтаксама ў яго поўная супярэчнасьць з аўтарам у паглядзе на князя Вітаўта. Для Гусоўскага Вітаўт — ідэал, якім ён захоплены, а ў Семяжона Вітаўт «князь вар'ят», із «зялёнай прыхамацяй», «факельшчык наў са слабым, а з дужым — анёл-міратворца». Тэндэнцыя тут гэткая выразная, што нават не патрабуе аніякае праверкі з лацінскім тэкстам. Калі я скончыла чытаць, у мяне застаўся вялікі нясмак, ну й пратэст. У расейскім перакладзе нічога гэткага няма. Пераклад гэны спакойны, у меры паэтычны й амаль заўсёды у згодзе з аўтарам «Песьні». Вітаўта Парэцкі нідзе ня лае. Ды й мова ягоная скрозь «у згодзе із станам сьвятарскім».

## НЯСЬВІЖСКАЯ НАСТАЎНІЦКАЯ СЭМІНАРЫЯ

*У біябібліяграфічным слоўніку «Беларускі пісьменьнік» пра Цімоха Зарэчнага (Рублёва), празаіка, што даволі актыўна друкаваўся ў даваенныя гады, аўтара шасьці кніг, літаральна некалькі сказаў: нарадзіўся ў 1910 г. вераготна на Случчыне, у часы акупацыі выкладаў у Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. У 1944 г. падаўся ў Польшчу, узяўшы прозьвішча жонкі — Лукашэвіч. Па адной з вэрсій, загінуў у 1944 г. каля Гарадзеі.*

*Крыху болей даведваемся пра яго з успамінаў былога заступніка дырэктара сэмінарыі Міхася Тулейкі:*

Я пазнаёміўся з Рублёвым-Зарэчным у 1942 г. у Настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы, дзе ён выкладаў беларускую мову. Чым раней ён займаўся, мне невядома. Жыў ён з жонкай і малым хлопчыкам на кватэры ў цэнтры Нясьвіжа. Больш усяго спатыкаўся я з Зарэчным у школе. Быў ён сьціплым чалавекам і настаўнікам высокай кваліфікацыі. Цешыўся вельмі добрай апініяй як сярод настаўнікаў, так і сярод вучняў сэмінарыі. Сам Зарэчны быў маламоўны і ня шмат удзяляўся жыцьцю школы. Яго галоўнай заботай была сям'я ды выкладаньне ў сэмінарыі.

Цяжкасьці ваеннага часу змушалі яго прасіць матэрыяльнай помачы калегаў-настаўнікаў, якія меліся крыху лепш, бо гэта былі мясцовыя настаўнікі. Яны дзяліліся, чым маглі.

Дырэктарам сэмінарыі быў Вячаслаў (ці Сьцяпан) Арэнь, а арганізатарам Аляксей Вініцкі. У школе выкладалі, апрача Зарэчнага, матэматык Рудакоўскі, гісторык Ксеневіч, географ Ешман, Зіна Станкевіч, Вольга Тулейка, Кожыч, Вірсьцюк, Тымінскі і яшчэ колькі настаўнікаў, якіх прозьвішчы ня ўспомню. У школе было каля 500 вучняў. Вось гэта мой кароткі ўспамін пра Цімоха Рублёва-Зарэчнага.

*Сёньня на эміграцыі яшчэ жывуць вучні былой Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. Будзем спадзявацца, што яны таксама захочуць напісаць пра выкладчыкаў і студэнтаў, пра сябе, каб зь цягам часу гэтая навучальная ўстанова сталася ня менш знакамітай за Віленскую Беларускую гімназію.*

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## 20-Ы ЮБІЛЕЙ СЛАВЯНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

У красавіку сёлета Рада Славянскай Спадчыны ў Амэрыцы ўрачыста адзначыла 20-я ўгодкі свайго існаваньня. Мэта гэтай арганізацыі — пашырэньне культуры славянскіх народаў і супрацоўніцтва паміж славянскімі этнічнымі групамі.

Стварэньне Рады было вынікам сьвяткаваньня ў 1976 годзе 200-годзьдзя Злучаных Штатаў. Усе этнічныя групы адзначылі гэты юбілей, у выніку чаго ў 1977 годзе быў зарганізаваны ў Нью-Ёрку Тыдзень Славянскай Культуры. Каб належна правесьці яго, быў заснаваны Славянскі Камітэт (СК), у які ўвайшлі: беларусы, македонцы, палякі, расейцы, славакі, славэнцы, сэрбы, чэхі і украінцы. Пазьней далучыліся баўгарцы і харваты. Ад беларусаў у СК увайшлі: сп. Антон Шукелойць, старшыня БАЗА; др. Вітаўт Тумаш, старшыня БІНіМ (ягоную функцыю пераняў у 1992 г. др. Вітаўт Кіпель); і Раіса Станкевіч ад БАЗА, як сакратар арганізацыі.

Ужо ў 1977 годзе адбыўся першы Тыдзень Славянскай Культуры. Была наладжаная выстаўка народнага мастацтва. У праграме Тыдня выступаў зь беларускімі песьнямі Багдан Андрусышын (Данчык), а ў мастацкай вы-



*На здымку (зьлева): Лідыя Дэмко (славачка), старшыня Рады Славянскай Спадчыны, з узнагароджанымі прадстаўнікамі беларуска-амэрыканскай грамады: Вітаўтам Кіпелем, Алай Орса-Рамана і Антонам Шукелайцем.*

стаўцы ўзялі ўдзел Ірэна Рагалевіч-Дутко, Галіна Русак, Івонка Шыманец-Сурвілла, Ст. Тамара, Пётра Міраповіч і Язэп Казьлякоўскі.

На працягу 20 гадоў адбываліся таксма вечары паэзіі, сымпозіюмы, выстаўкі народнага мастацтва, народных касьцюмаў ды фэстывалі народных танцаў і песьняў. Апошнімі дзесяцьма гадамі гэтыя фэстывалі праходзяць у Лінкольнаўскім Цэнтры Мастацтваў у Мангатэне ў залі імя Алісы Тулі. Ад беларусаў на фэстывалях браў удзел танцавальны ансамбль «Васілёк» пад кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана.

Сёлетні фэстываль адбудзецца 15 лістапада ў тэй-жа залі. Ад беларусаў возьме ў ім удзел ведамая сям'я сьпевакоў: Валянтына Пархоменка-Казак, Алесь Казак і Оля Казак.

**Раіса Станкевіч**

## ВІНШУЕМ!



*Віншуем сп. Паўла Знаўца, дэпутата Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня, і сп-чну Марыю Байгот, студэнтку Беларускага Недзяржаўнага Ўнівэрсытэту Кіраваньня, са шлюбам, які яны ўзялі 24 жніўня ў катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.*

## ТАК МЫ ПЕРАМОЖАМ

На Беларусі скончыліся ўступныя іспыты ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У Менскім пэдагагічным унівэрсытэце імя Максіма Танка самы высокі конкурс быў на спэцыяльнасьць беларуская мова й літаратура і ангельская мова — ажно 5 чалавек на месца. Да таго-ж, на 25 месцаў было пададзена 33 заявы мэдалістаў! У Брэсцкім дзяржаўным унівэрсытэце самы высокі конкурс быў на спэцыяльнасьць беларуская мова і літаратура — 9,3. Гэта значыць, што на 15 месцаў (усяго!) падалі заявы 140 чалавек. Відавочна ўзрасла цікавасьць моладзі да гісторыі, ангельскай мовы, псыхалёгіі. Значна зьнізілася на такія прэстыжныя ў былым спэцыяльнасьці, як журналістыка і юрыспрудэнцыя. Яно й зразумела.

## ПАКІНУЦЬ САМАБІЧАВАНЬНЕ

Уся беларуская прэса перагружаная даўгімі артыкуламі з нараканьнямі або сцьверджаньнем тых адмоўных зьяваў, якія ў нас наглядаюцца. Прыкладам тут можа паслужыць передрук артыкулу Фэлікса Шкірманкова, вэтэрана вайны, у «Беларускім Дайджэсьце» з газэты «Народная Воля». Аўтар артыкулу кажа, што ў Менску адбываецца «нямала значных падзей, але большыня зь іх ня выходзіць за межы сталіцы»; што на гэтай «замкнутай тэрыторыі стварaецца ўражаньне масавай падтрымкі» дэмакратычнага руху, але «астатняя Беларусь чуе і бачыць з экранаў тэлевізараў зусім што іншае». Аўтар наракае на «адсутнасьць нацыянальных ідэяў сярод сялянскіх масаў», на «адсутнасьць яўнага лідэра сярод сацыял-дэмакратаў», «няма матарыяльнай падтрымкі функцыянерам дэмакратычнага руху». Пра гэткае і падобнае гаворыць увесь артыкул.

Запоўніваньне газэт даўгімі артыкуламі, якія толькі сцьвярджаюць бязвыходнасьць сытуацыі на Беларусі ня спрыяе нацыянальнаму руху. У абліччы крытычнае сытуацыі трэба ня толькі апісаваць цяжкасьці і крыўды, а трэба прапанаваць абаронныя крокі. Калі нехта разумна аналізуе сытуацыю і наракае, што няма лідэра, дык трэба самому станавіцца лідэрам, прынамся ў сваёй непасрэднай мясцовасьці. Газэта мусіць мець сваіх сталых дасьведчачных назіральнікаўаналітыкаў. А рэшта чытачоў могуць выказваць сваё меркаваньні ў каротких артыкулах або ў калёнцы «Лісты ў рэдакцыю».

**А.М.**

## ДА СУРОДЗІЧАЎ ЗАМЕЖЖА

У Баранавічах, апрача нефармальнай грамадзкай арганізацыі «Сходкі» і клюбу моладзі, мы заснавалі ў 1996 г. «Сьвятліцу», якая аб'яднoўвае мясцовых літаратараў, бардаў і мастакоў. Рэгістрацыя яе каштавала шмат клопатаў і грошай. Нашае жаданьне — выдаваць літаратурны альманах, касэты музычнага ансамблю «Фэст» і бардаў ды каталёг баранавіцкіх мастакоў. Публікацыя майго агляду паэзіі пэрыяду 1980-1995 гадоў пад заг. «Аглядзіны» ўжо наклёўвалася, калі Фундацыя Сораса дала згоду на аплату выданьня. Але нечакана дзейнасьць фундацыі была спыненая, а грошы канфіскаваныя.

Цяпер спрабуем зьвярнуцца да прадпрыемстваў з просьбай дапамагчы нам у гэтай справе. Хацелі-б зьвярнуцца таксама і да беларускага замежжа, менавіта да Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў ЗША і Канадзе. Можа тут знайшлася-б якая падтрымка, або можа хто-небудзь з паасобных беларусаў дапамог-бы.

**Алесь Бакач**
вул. Першукевіча, 40-1
г. Баранавічы — 225320
Брэсцкая вобл.

## УГОДКІ СЬМЕРЦІ СЬВ. ПАМ. П. КАЖУРЫ

Сям'я сьв. пам. Пётры Кажуры адзначыла 17 жнівеня пятыя ўгодкі сьмерці мужа, бацькі і дзеда паніхідай і памінальным абедам у царкоўнай залі парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку, Нью-Джэрзі. Усе прысутныя ў царкве засталіся на бяседу, каб адзначыць актыўную і ахвярную дзейнасьць гэтага заслужанага ў беларускай справе чалавека.

Прыехаўшы ў ЗША з жонкай Марыяй, ён адным зь першых беларускіх эмігрантаў пачаў памагаць іншым беларусам, што засталіся ў Нямеччыне, пераяжджаць у Амэрыку. Хутка быў зарганізаваны аддзел БАЗА ды заснаваная царква на чале зь мітр. прат. Сьцяпанам Война нкам. Неўзабаве пачаліся захады куплі царкоўнага будынку і маёмасьці. Тут сьв. пам. Пётра Кажура адыгрываў ключавую ролю: былі купленыя царква і царкоўны дом у Гайленд-Парку.

Сьв. пам. Пётра быў чалавекам спакойным, але нястомным у працы на беларускай ніве. Дык няхай ён будзе прыкладам для ўсіх, што сюды прыяжджаюць.

**В. Русак**

## БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАСТЫ-ЧЭМПІЁНЫ.

На сусьветным чэмпіянаце у Лёзане ў Швайцарыі, які закончыўся ў нядзелю 7 верасьня, беларускі атлет Іван Іванкоў здабыў першае месца ва ўсебаковых спаборніцтвах (56,887 пункта). На другім месцы — расейскі гімнаст Аляксей Бандарэнка (56,061), на трэцім — японец Наоя Цукахара (56,023).

У спаборніцтве мужчынскіх камандаў беларускія атлеты (Аляксандар Шастак, Іван Іванкоў, Уладзімір Касьпяровіч, Іван Паўлоўскі, Віталі Гудніцкі і Аляксей Сінкевіч) занялі другое месца (221,586 пункт). На першым месцы — Кітай (224,855), на трэцім Расея (220,682).

## НОВЫЯ КНІГІ

**В. Цітоў. Этнаграфічная спадчына. Беларусь. Краіна і людзі. Вучэбна-метадычны дапаможнік. Менск, 1996.**

Кніга знаёміць з асновамі этнаграфічных ведаў пра беларускі народ і яго старажытную культуру, расказвае пра гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны, этнічны склад насельніцтва Беларусі, а таксама пра этнаграфію «сумежных рэгіёнаў», па вызначэньню аўтара, — Вільню, Беласточчыну, Смаленшчыну, Браншчыну, Латгалію. Інакш кажучы, пра тыя самыя беларускія землі.

Асобны разьдзел прысьвечаны беларускаму замежжу. Аўтар у якасьці першых эмігрантаў называе Ф. Скарыну, Івана Фёдарава, Пятра Мсьціслаўца, Сімяона Полацкага, спрабуе вылучыць «хвалі , што несьлі беларусаў на чужыну: вайна 1654-1667 гг., падзел Рэчы Паспалітай, нацыянальна-вызвалечыя войны 1794, 1831, 1863 гг. Адзначаецца, што ў XX ст. эміграцыя стала масавай. Гэтак, толькі ў 1896-1912 гг. у Сібір выехала больш за 700 тысяч беларусаў. Амаль столькі-ж апынулася ў Злучаных Штатах, Канадзе да першай сусьветнай вайны. Наступная хваля ў Паўднёвую Амэрыку й Канаду, якая закранула бадай што толькі Заходнюю Беларусь, адносіцца да 1925-1939 гг.

Больш падрабязна аўтар спыняецца на наступствах другой сусьветнай вайны, эміграцыі і прымусовым вывазе беларусаў — як на Захад, гэтак і на Ўсход, пералічвае зробленае беларусамі ў вольным сьвеце. Ён зазначае: *«Беларускае замежжа дапамагло захаваць інтэлектуальны патэнцыял беларускага народа і мае сур'ёзныя посьпехі ў вывучэньні праблем беларускай гісторыі і культуры. Як заўважыў Васіль Быкаў, дзеячы беларускага замежжа ва ўмовах камуністычнага аднадумства і жорсткай цэнзуры, што панавалі на Беларусі, былі ашчаднікамі нашай нацыянальнай існасьці, захавальнікамі нашага культурнага генафонду. Тое што думалі, але не маглі адкрыта сказаць іх сучасьнікі ў сябе дома, на Беларусі, дзеячы замежжа свабодна гаварылі, сцьвярджалі праўду аб шматпакутнай гісторыі Беларусі; яны былі свайго роду рупарам незалежнасьці і носьбітам нацыянальнай ідэі».*

Разьдзел пра беларускае замежжа заканчваецца наступнымі словамі: *«Жыцьцё патрабуе пераасэнсаваньня старых стэрэатыпаў у адносінах да суайчыньнікаў за мяжой, умацаваньня трывалых і пастаянных сувязей, аб'яднаньня інтэлектуальных сіл нацыі дзеля адзінай мэты — нацыянальна-культурнага адраджэньня і вываду Беларусі з цяжнага духоўнага і эканамічнага крызісу на натуральныя шляхі да еўрапейскай цывілізацыі».* Таму няма нічога дзіўнага, што неўзабаве па зьяўленьню ў кнігарнях кнігу пачалі «ізымаць» з продажу. У навучальныя ўстановы падручнік не патрапіў.

## А. ЛУКАШУК. ФІЛІСТОВІЧ, ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА

**Менск. Выд. «Наша Ніва», 1997. 80 ст., ілюстрацыі.**

У кнізе сабраныя матар'ялы пра Янку Філістовіча, які быў скінуты амэрыканцамі на Беларусь з парашуту ў 1951 годзе і цэлы год, хаваючыся ад органаў МДБ па вёсках і лясох, наладжваў беларускае нацыянальнае падпольле. Філістовіч быў арыштаваны 9 верасьня 1952 г. і прысуджаны да расстрэлу.

У кнізе зьмешчаны пратакол ягонага допыту, рэпрадукцыя ягоных артыкулаў у часапісу «Моладзь», які выходзіў у Парыжы, ды ўспаміны пра Філістовіча тых, хто яго ведаў.

Аўтар кнігі, Аляксандар Лукашук — адзін з заснавальнікаў «Мартыралёгу Беларусі», былы член камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларусі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, які цяпер працуе ў Беларускай сэкцыі радыё «Свабода» ў Празе.

Кніга выйшла ў сэрыі «Архіў найноўшай гісторыі», добра апрацаваная і чытаецца з напружаньнем. Аўтар заслужыў на шчырую падзяку ад чытача, а выдавецтва, апрача падзякі — на грашовае падтрыманьне ў вельмі важнай справе дакумантаваньня найнавейшае гісторыі.

Часапіс «Кантакты і дыялогі», выдаваны Міжнароднай Асацыяцыяй Беларусістаў і Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, займеў свой адрас на Інтэрнэце: **http://www. kingvo.minsk.by/mab/k&d/html**. Пакуль існуе адно беларуская вэрсія, але ідзе праца над стварэньнем англамоўнай старонкі часапісу. Тут ужо зьмешчаны ўсе нумары, выдадзеныя сёлета, у вельмі зручнай для карыстаньня форме. Біяграфічныя артыкулы стануць асновай энцыклапэдычнага даведніка «Беларускае замежжа». Таксама пададзены адрасы суполак МАБ.

Часапіс «Кантакты і дыялогі» шукае спонсараў.

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя інфармацыйныя матар'ялы спсп.: В. Мельяновічу, Б. Даніловічу, А. Русаку, М. Раецкаму, М. Латушкіну, У. Акавітаму, М. Швэдзюку, Ю. Найдзюк, А. Маркевічу.

## НА ВЫДАВЕЦТВА ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС»

*Прыслалі беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Л. Багун | ам.дал. 100 |
| Я. Жучка | 50 |

*Ад нашага прадстаўніка Сяргея Трыгубовіча:*

| | |
|---|---|
| І. Мол | 30 |
| М. Кажура | 50 |

*Заміж кветак на магілу с.п. Н. Арсеньневай:*

| | |
|---|---|
| З. і Н. Запруднік | 50 |
| Л. і Э. Норык | 50 |
| А. Сямёнава | 50 |
| І. Цупрык | 50 |

### Ахвяраваньня на БІНіМ

| | |
|---|---|
| Я. Жучка | ам.дал. 100 |
| Л. Клыбік | 100 |
| М. Наўмовіч | 100 |
| Мітрапаліт БАПЦ Мікалай | 40 |

### Ахвяраваньня на Аддзел БАЗА Нью-Джэрзі

| | |
|---|---|
| В. Махнач | 100 |
| др. В. Кіпель | 50 |
| др. В. Рамук (Каардынац. К-т у Чыкага) | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Н. Вортс | 25 |
| др. М. Дэмковіч | 25 |
| А. Сямёнава | 25 |